



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

15 чэрвеня 2018 года №24 (1207)










# Бацькі ноч прасядзелі ў чарзе пад гімназіяй

## А ці стану я гімназісткай?

**Мама будучай першакласніцы распавяла, як запісвала дзіця ў шостую гімназію ў Маладзечне**

старонка 21

Фота fthmb.tqn.com.




ISSN 1991–7155






**172 медалі атрымалі сёлета выпускнікі рэгіёна**



старонка 2

старонка 4



**На Вілейшчыне памёр 19-гадовы хлопец**

## «Камарова. Кола дзён» збірае майстроў і гасцей

МЯДЗЕЛ

У вёсцы Камарова 16 чэрвеня пройдзе традыцыйная выстава-кірмаш народных промыслаў і рамёстваў «Камарова. Кола дзён».

Гасцей свята чакае выстава-кірмаш вырабаў народных майстроў, умельцы пакажуць майстар-класы і візітоўкі-прэзентацыі. Выступяць музычныя калектывы, для дзяцей наладзяць забаўляльную праграму і работу атракцыёнаў.

Пачнецца свята ў 11 гадзін.

## Жыхарку Астраўца ўзнагародзілі ордэнам Маці

АСТРАВЕЦ

Сярод узнагароджаных ордэнам Маці з 34 жанчын ёсць прадстаўніца Астраўца **Ганна Лаўрэцкая**.

Жанчына працуе ў адным з магазінаў райспажыўтаварыства ў Астраўцы.

У сям'і Лаўрэцкіх гадуюць пяцёра дзяцей: **Мікіту**, **Арыну**, **Аляксандру**, **Алесю** і **Марыю**.

Малодшай Машы яшчэ няма двух гадоў. Таму цяпер мама ў дэкрэтным адпачынку. Ордэн Ганна Лаўрэцкая атрымае ў бліжэйшы час, паведамляюць у Астравецкім райвыканкаме.

## Забараняюць хадзіць у лясы рэгіёна

Ад шостага чэрвеня забаранілі хадзіць у лес на Маладзечаншчыне, ад дзявятага – на Вілейшчыне.

Забарона звязаная з сухім надвор'ем, якое стаіць на працягу некалькіх тыдняў. Таксама не дазваляюць распальваць вогнішча ў лесе.

Як распавялі ў Маладзечанскім лясгасе, у апошні час было ўжо некалькі сур'ёзных лясных пажараў у Маладзечанскім раёне. Чацвёрты клас пажарнай небяспекі ўстанавілі ў лясах Вілейшчыны, паведамілі ў Вілейскім доследным лясгасе.

Ад 12 чэрвеня нельга заязджаць на транспарце і заходзіць у лес на Валожыншчыне. Прычына – высокі клас пажарнай небяспекі з-за надвор'я. За парушэнне пагражае штраф да 25 базавых велічынь (612,50 рублёў).

Нагадаем, што хадзіць у лес на Астравеччыне, Ашмяншчыне і Смаргоншчыне забаранілі 1 чэрвеня.

**Аддзел інфармацыі.**

## На рэстаўрацыю Гальшанскага і Крэўскага замкаў дадаткова выдаткавалі больш за мільён рублёў

АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ

Адпаведнае распараджэнне падпісанае Лукашэнкам 31 мая, і на кансервацыю з рэстаўрацыяй гэтых аб'ектаў выдаткавана больш за мільён рублёў.

Сёлета пачнуцца працы па кансервацыі з рэстаўрацыяй паўночна-заходняй сцяны Крэўскага замка ў Смаргонскім раёне і паўночнай вежы Гальшанскага замка на Ашмяншчыне.

– На правядзенне работ на вежы Гальшанскага замка выдаткавана 250 тысяч рублёў. Праектам прадугледжаная рэстаўрацыя мура сцен, уладкаванне даху, унутранае аздабленне вежы, устаноўка сталярных вырабаў і ўладкаванне дэманстрацыйных лесвіц на другі паверх вежы, – распавяла «Гродзенскай праўдзе» начальнік упраўлення культуры аблвыканкама **Алена Клімовіч**.

На працы на Крэўскім замку выдаткавана амаль 900 тысяч рублёў.

**Паводле «Нашай нівы».**

## Ад чэрвеня ў Маладзечанскім райвыканкаме новая структура

МАЛАДЗЕЧНА

Змяненні дзейнічаюць ад 1 чэрвеня.

1). Пасаду намесніка старшыні райвыканкама, які курыруе пытанні будаўніцтва, сумясцілі з пасадай намесніка старшыні райвыканкама, што курыруе пытанні ЖКГ.

2). Упраўленне сельскай гаспадаркі і харчавання перайменавалі ва ўпраўленне па сельскай гаспадарцы і харчаванні.

3). Фінансавы аддзел райвыканкама перайменавалі ў фінансавае ўпраўленне.

4). Аддзел адукацыі, спорту і турызму перайменавалі ва ўпраўленне па адукацыі, спорце і турызму.

5). Землеўпарадкавальную службу райвыканкама перайменавалі ў аддзел землеўпарадкавання райвыканкама.

**Паводле сайта Маладзечанскага райвыканкама.**

# 172 медалі атрымалі сёлета выпускнікі рэгіёна



18 медалёў уручылі сёлета выпускнікам школ Вілейшчыны.

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**9 і 10 чэрвеня ва ўсіх гарадах нашага рэгіёна прайшлі раённыя мерапрыемствы для выпускнікоў сярэдняй школы.**

Сцэнарый ва ўсіх выпускных быў прыкладна аднолькавы: па цэнтральнай вуліцы горада выпускнікі з паветранымі шарамі прайшлі ў суправаджэнні бацькоў і настаўнікаў, ускладалі кветкі да помнікаў. Пасля перыядычна выкрыкваючы «Логас – лепшы» або «Дзясятая школа – супер» рушылі да асноўнай святочнай пляцоўкі.

Для вілейскіх выпускнікоў такой пляцоўкай стала плошча Леніна. Асноўныя ўрачыстасці для маладзечанцаў разгарнуліся ў амфітэатры.

Падчас урачыстай цырымоніі ўзнагароды атрымалі выдатнікі вучобы, а таксама выпускнікі, якія годна праявілі сябе ў творчай, навуковай дзейнасці, спорце.

– Выпускнікі-2018 – тыя, кім можа сёння ганарыцца Вілейшчына, – адзначыў у прывітальным слове начальнік упраўлення адукацыі, спорту і турызму Вілейскага раёна **Аляксандр Пуцэйка**. – Сярод сёлетніх выпускнікоў – пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд і кандыдаты ў майстры спорту.

А старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** назваў герояў свята надзеяй Беларусі.

Свята ўпрыгожылі творчыя калектывы горадоў. А для выпускнікоў з Маладзечна спяваў гурт «Дразды».

У Маладзечне з 736 выпускнікоў сёлета медалямі за выдатную вучобу ўзнагародзілі 66 чалавек. 63 атрымалі золата, тры – срэбра. Медалёў у Маладзечне на 16 больш, чым летась. Лідар па колькасці – дзясятая гімназія. Бацькі ўсіх медалістаў атрымалі Пісьмы падзякі ад Маладзечанскага райвыканкама. Пяць выпускнікоў атрымалі спецыяльныя пасведчанні прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі. Гэта пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд, удзельнікі прэстыжных навуковых канферэнцый.

Наступная па колькасці залатых медалёў – Смаргонь. Тут іх 26. У Валожыне – 22, у Ашмянах – 21. У Вілейцы з 298 выпускнікоў залатыя медалі атрымалі 17 чалавек, адзін – срэбны. 10 залатых і два срэбныя медалі – у выпускнікоў Астраўца, 7 залатых – у Мядзеле.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Двое з тых 736 выпускнікоў, якія сёлета скончылі школу на Маладзечаншчыне.

# Так і жывём. Швачка распавяла пра свае даходы і выдаткі

**Швачка на прыватным прадпрыемстве расказала, чаму не выкарыстоўвае магчымасць зарабляць больш, дзе купляе прадукты і на чым эканоміць, каб адправіцца да мора.**




### Вабіць графік працы

Швачкай працую больш за чатыры гады, а раней працавала прадаўцом на рынку. Узімку мерзнуць даводзілася пастаянна. З рынку сышла, як толькі даведалася пра цяжарнасць.

У дэкрэтны адпачынак сыходзіла беспрацоўнай. Калі сыну было амаль тры гады і прыйшла пара падшукваць працу, даведалася пра другую цяжарнасць. Да пытанні аб працаўладкаванні вярнулася, калі тры гады споўнілася меншаму дзіцяці. Каб зноў ісці гандляваць на рынак, не магло быць і гаворкі. Падчас цяжарнасці мне пачалі "адгукацца" дні, праведзеныя на марозе.

Неяк убачыла аб'яву аб наборы швачак і пайшла на сумоўе. Адразу прынялі вучаніцай, а праз тры месяцы прысвоілі першы разрад. Працуем пяць дзён на тыдзень, з васьмі раніцы да паловы пятай вечара.

Ёсць швачкі, якія зарабляюць па 700-800 рублёў, для гэтага прыходзяць на працу да шасці раніцы і строчаць да сямі вечара.

### Менш пены

Штомесяц зарабляю 420 рублёў. Гэта прыкладна трэціна ад нашага агульнага з мужам заробку. Як толькі атрымліваю зарплату, адразу аплачваю камунальныя паслугі, інтэрнэт і дзіцячы сад. На гэта сыходзіць 150 рублёў. Прыкладна 30 кожны месяц я трачу на бытавую хімію і мыйныя сродкі для ўсёй сям'і.

Раней больш грошай выдаткоўвала на догляд за сабой: купляла дарагі імпартны шампунь, шмат сродкаў для дадатковага догляду за валасамі, крэмы і розныя маскі для твару. Цяпер уся мая касметыка толькі беларускіх вытворцаў. Цяпер проста напаўняю ванну вадой і мыюся мылам. Вось і ўсё.

Раней для кожнай паверхні ў ваннай, прыбіральні і на кухні купляла асобны мыйны сродак. Цяпер і на гэтым эканомлю. Чым адрозніваецца паверхня ўнітаза ад ракавіны ў ваннай? Нічым.

### Без мяса і прыгажосці ніяк

На ежы для дзяцей я не эканомлю. Ды і пра мужа забываць не варта, ён – асноўны карміцель у сям'і. Таму практычна ўся астатняя частка майго заробку сыходзіць на прадукты.

У краму заходжу кожны дзень пасля працы. Штодня ў нас на стале стравы з мяса, рыбы, курыцы. Паўфабрыкаты не купляем. Стараюся даваць дзецям малочныя прадукты, а вось прысмакаў шмат не купляем, больш садавіны. Калі моцна захочацца смачненькага, лепш нешта сама спяку. Гародніну практычна не купляем: нашы бацькі жывуць у вёсцы і забяспечваюць пладамі сваёй працы ў агародзе.

Сама стараюся харчавацца прасцей, лепш аддам грошы на цырульню, куды хаджу кожны месяц: фарбую валасы, раблю манікюр, летам – яшчэ і педыкюр. Штомесяц на гэта ідзе 40 рублёў. Купляю праязны на аўтобус. Машына ў нас ёсць, але на ёй на працу ездзіць муж.

### Замест адзення – рамонт у кватэры

Адзенне і абутак для дзяцей у нашай сям'і купляю толькі я, але плаціць за гэта муж. З майго даходу хіба што шкарпэткі і бялізну ім купіць магу. Калі б не зарплата мужа, мне цяжка нават уявіць, як бы я магла ўвогуле нешта купіць дзецям.

Мой дзядзька часта ездзіць за мяжу, часам просім яго адтуль нешта прывезці. Там танней. Апранаем дзяцей звычайна на рынку, толькі абутак купляем айчынны і якасны. Асабліва зімовы. Ногі трэба трымаць у цяпле. Малодшаму таксама стараемся новае купляць: пасля старэйшага абутак звычайна далёка «не таварнага» выгляду.

А вось свой з мужам гардэроб мы абнаўляем вельмі рэдка, дамовіліся лепш збіраць грошы на рамонт у кватэры і паездку да мора. Завялі сабе правіла: кроў з носа, а кожны месяц трэба адкласці 200 рублёў. Пакуль атрымліваецца.

Разы два на месяц мы стараемся выбрацца ў горад пагуляць з дзецьмі, у кафэ пасядзець або ў забаўляльны цэнтр зазірнуць. Вельмі ўжо хочацца, каб сыны запомнілі сваё дзяцінства.

**Наталля САЛАМЯНКА, «Інтэкс-прэс», Баранавічы.**
**Інфаграфіка Пятра КАРАСЮКА.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**57 мільёнаў**

пар панчошна-шкарпэтачных вырабаў выпусцілі ў Беларусі ў студзені-красавіку

Паводле Белстат.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.06 | 14.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0015 | **2,0103** |
| Еўра | 2,3535 | **2,3617** |
| Злоты, 10 | 5,5007 | **5,5214** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2244 | **3,1882** |
| Грыўня, 100 | 7,6525 | **7,6960** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 6.06 | 13.06 |
| Еўра | 2.3390/2.3590 | 2.3400/2.3650 |
| Долар ЗША | 1.9930/2.0100 | 2.0010/2.0120 |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.06 | 13.06 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **3,50** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,67 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 0,89 | **0,89** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,35 | **1,60** |
| Буракі, 1 кг | 1,65 | **1,69** |
| Капуста, 1 кг | 1,60 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,80 | **1,65** |
| Морква, 1 кг | 1,30 | **1,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,69 | **2,60** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,99 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,69 | **3,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 1,99 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,95 | **4,80** |
| Гранаты, 1 кг | — | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,69 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 5,50 | **—** |
| Кавун, 1 кг | 3,50 | **2,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 2,50 | **2,80** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,99 | **3,50** |
| Нектарыны, 1 кг | — | **6,80** |
| Чарэшня, 1 кг | — | **5,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Зладзеі ў масках кралі камбікорм са склада на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

Ноччу 10 чэрвеня двое мужчын скралі на складзе ў Бубнах амаль 400 кілаграмаў камбікорму і 25 кілаграмаў збожжа.

Па слова **Кацярыны Млечкі,** намесніка начальніка Вілейскага РАУС, мужчыны адключылі камеры відэаназірання, надзелі маскі на твары і пранiклі на склад.

Аднак сведкі заўважылі іх машыну. Фігурантаў затрымалі, узбудзілі крымінальную справу. Страты, нанесеныя гаспадарцы, склалі 413 рублёў.

## Чыгункай перавозілі небяспечны наркотык

МАЛАДЗЕЧНА

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу ў красавіку па артыкуле «Незаконны абарот наркатычных рэчываў».

28-гадовы грамадзянін Беларусі перавозіў небяспечнае псіхатропнае рэчыва чыгуначным транспартам.

Паводле Крымінальнага кодэкса, злачынства прадугледжвае пакаранне – штраф ці арышт ад трох да шасці месяцаў, ці абмежаванне свабоды да двух год, ці пазбаўленне свабоды да трох год.

Калі вы сталі ахвярай ці сведкай злачынства на чыгунцы, просім звяртацца па тэлефонах: (8029) 863-70-45 ці 102.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, Маладзечанскі АУСТ.**

## Макавае поле памерам з гектар знайшлі ў Мядзельскім раёне

МЯДЗЕЛ

Ад 1 чэрвеня ў Беларусі стартаваў спецыяльны комплекс мерапрыемстваў «Мак» Падчас акцыі супрацоўнікі міліцыі скіраваныя на выяўленне месцаў росту раслін, з якіх могуць быць выраблены наркасмяшчальныя рэчывы.

Гаворка, галоўным чынам, ідзе пра мак і каноплі. У рамках гэтай працы супрацоўнікі Мядзельскага РАУС знайшлі ўчастак поля з дзікаросльым макам – поле памерам у гектар. На гэтым участку даволі шчыльна зацвілі макавыя расліны

Пасля звароту на прадпрыемства, за якім замацаваная тэрыторыя, на месца прыбыла тэхніка для пакосу. Знішчылі больш за 500 кілаграмаў забароненай расліны.

Міліцыянеры ўказалі кіраўніцтву сельгаспрадпрыемства на тое, што на дадзены ўчастак варта звярнуць адпаведную ўвагу Бо дзікаросльі мак лёгка распаўсюджваецца. Асабліва па тых землях, якія належным чынам не апрацоўваюцца.

Таксама варта нагадаць: паводле артыкула 16.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, пасеў або вырошчванне забароненых да апрацоўкі раслін, якія змяшчаюць наркатычныя сродкі або псіхатропныя рэчывы, – нагода для прыцягнення да адказнасці. Штрафныя санкцыі могуць дасягаць дваццаці базавых велічынь.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## Мяса, рыбу, садавіну крадуць у дзяцей работнікі сталовых у летніках рэгёна

ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА

На тэрыторыі Мінскай вобласці ўжо адкрылася 56 дзіцячых аздараўленчых летнікаў, у якіх адпачываюць больш за 13 тысяч дзяцей. Ва ўсіх летніках супрацоўнікі міліцыі Мінскай вобласці і Мінска нясуць службу па ахове грамадскага парадку. Літаральна ў першыя два рэйдавыя дні ўстанавілі чатыры аналагічныя факты ў летніках, размешчаных у Валожынскім і Маладзечанскім раёнах, уласнікі якіх з'яўляюцца сталічныя прадпрыемствы

На Валожыншчыне затрыманая кухонная рабочая. Жанчына толькі паспела прыступіць да выканання сваіх абавязкаў, але ў яе асабістых засеках супрацоўнікі міліцыі выявілі цэлы набор прадуктаў з дзіцячай сталовай – мяса, свежамарожаны хек, восем слоікаў кансерванага гарошку, разынкі, свежую гародніну і садавіну. У ходзе размовы з супрацоўнікамі міліцыі жанчына не хавала, што ўладкавалася на працу ў тым ліку, каб папоўніць уласны халадзільнік. А яшчэ заўважыла: нічога страшнага не адбылося, дзецям усё роўна хапае.

Яшчэ адзін падобны выпадак здарыўся на Маладзечаншчыне. Там міліцыянерам трапілася загадчыца склада аднаго з летнікаў. Жанчыну заспелі з торбамі ў руках, у якіх быў цэлы бакалейны набор. Затрыманая патлумачыла свой учынак тым, што ў дзяцей дрэнны апетыт.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**



Раніцай маці знайшла мёртвым 19-гадовага сына.

# На Вілейшчыне памёр 19-гадовы хлопец.
## Папярэдняя прычына – атручэнне алкаголем

ВІЛЕЙКА

**Пра смерць 19-гадовага хлопца 10 чэрвеня на Вілейшчыне карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» распавялі ў Вілейскім РАУС.**

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Кацярыны Млечкі**, трагедыя здарылася ў адной з вёсак, недалёка ад Вілейкі.

10 чэрвеня ў РАУС патэлефанавала жанчына і расказала пра смерць 19-гадовага сына. Стала вядома, што хлопец адпачываў з сябрамі, шмат выпіў. Сябры прывялі яго дамоў. А раніцай мама знайшла сына на ложку без прыкмет жыцця.

Вілейскі РАСК праводзіць праверку. Магчыма, прычынай смерці стала вялікая доза спіртнога.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Міліцыя распавядае, як грыбнікам не згубіцца ў лесе

МАЛАДЗЕЧНА

**У летне-асенні перыяд у Беларусі адкрываецца грыбны сезон. У грыбы часта едуць сем'ямі. Нярэдкія выпадкі, калі няведанне мясцовасці і хваравіты стан грыбнікоў прыводзяць да знікнення людзей.**

Толькі ў 2017 годзе ў органы ўнутраных спраў Мінскай вобласці паступіла каля 90 паведамленняў пра людзей, якія зніклі ў лесе. На пошукі накіроўваецца шмат супрацоўнікаў міліцыі, МНС, ваеннаслужачых, спецыялістаў іншых службаў. Аднак заблукалых не заўсёды атрымліваецца знайсці. Да сённяшняга дня невядомы лёс 39 чалавек, якія заблукалі ў лесе. На жаль, паходы ў грыбы і ягады часам заканчваюцца смерцю. У 2017 годзе ў лясах знайшлі шэсць памерлых грыбнікоў.

Зарэгістраваныя выпадкі, калі зніклыя ў лясах некалькі гадзін і нават дзён былі без сувязі з роднымі па тэлефоне. Калі па розных прычынах сувязь са сваякамі прыпынялася, родныя звярталіся па дапамогу ў міліцыю.

Міліцыя заклікае не хадзіць у лес адному. Лепш запрасіць з сабой спадарожніка, а то і некалькіх. Перад паходам падзарадзіць свае мабільныя тэлефоны, расказаць блізкім, у якую мясцовасць збіраецеся ісці.

Калі заблукалі, не панікуйце. Успомніце шлях, якім ішлі, знайдзіце знаёмыя арыенціры. Паведаміце па мабільным тэлефоне ў міліцыю пра тое, што заблукалі. Мінімізуйце званкі, але тэлефон не выключайце.

### Інфармуйце блізкіх

Калі вы збіраецеся ў лес адны, абавязкова скажыце пра гэта сваякам, суседзям, сябрам. Звярніце ўвагу на буйныя арыенціры: рака, дарога, чыгуначная станцыя. Калі чалавек не вярнуўся дадому ў прызначаны час, выклікайце міліцыю. Не спрабуйце шукаць самі.

### Што трэба ўзяць з сабой

Вазьміце падзараджаны мабільны тэлефон з папоўненым балансам. Але памятайце, што ў лесе сотавая сувязь не заўсёды даступная.

Надзеньце на шыю свісток, добра мець з сабой лекі, бінт, ёд, запалкі, дажджавік, невялікі запас грошай. Камуфляжная форма грыбніка ўскладняе пошукі.

### Што рабіць, калі заблукаў

Пастарайцеся вярнуцца на тое месца, дзе разышліся са спадарожнікамі. Калі іх не знойдзеце, шукайце любую сцяжыну, дарогу, прасеку, лінію электраперадач. Ніколі не пераходзьце вадаём, ідзіце ўздоўж яго.

Калі зразумееце, што прыйдзецца заначаваць у лесе, раскладзіце вогнішча на высокім месцы ля вялікага дрэва. Ляжаць трэба тварам да вогнішча, але не спаць.

Міліцыя заклікае не заставацца абыякавымі да бяды сваякоў зніклых. Пры знаходжанні чалавечых рэштак, нейкіх прадметаў (вопратка, абутак, вёдры, кошыкі), абавязкова паведамляйце пра гэта ў бліжэйшы РАУС па тэлефоне 102.

**Юры КАБАКОЎ, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС.**

# Лёгка ў фірмовай краме на пікнік сабрацца маме



## Закупляем прадукты для сямейнага пікніка ў фірмовых магазінах «Вялес-Міт»



Алеся Вярбоўская расказвае, чым «Купецкі» шашлык адрозніваецца ад «Апетытнага».

**Пачатак летняга сезона наша сям'я вырашыла адзначыць пікнікам.**

– Ура! Купі сасісак, на палачках на вогнішчы пасмажым! – скакалі шчаслівыя дзеці.

– А мне чаго-небудзь смачненькага да піва! – даваў свае заказы муж.

Ну, і, вядома, які ж пікнік без шашлыкоў. І якія ж шашлыкі без вугалю, аднаразовага посуду, смачнага соусу і гародніны. Карацей, каб сабрацца на жаданы пікнік, я была гатовая абысці ўсе крамы ў раёне, а можа, і на рынак з'ездзіць. Не так проста і мужу з дзецьмі дагадзіць, і сябе парадаваць, і сямейны бюджэт зэканоміць.

Шашлыкі вырашылі браць гатовыя. Не было лішняга часу, каб займацца з мясам. Пошукі пачалі з крамы гандлёвай маркі «Маладзечна». Яна знаходзіцца ў нашым мікрараёне на Замкавай, 2, зусім побач з домам. Думала, выберу шашлык, аднясу ў халадзільнік, а далей паеду ў горад за гароднінай, посудам, соусамі і чым-небудзь смачненькім для дзяцей і мужа.

На Замкавай нам прапанавалі «Апетытны эліт» і «Купецкі эліт». Кожнага шашлыку ўзялі па кілаграму. І грошай крыху зэканомілі: увесь чэрвень у фірмовых крамах «Вялес-Міта» на шашлыкі зніжка.

Тут жа набылі пакет вугалю для мангала, аднаразовы посуд, гародніну, розных соусаў.

Уразіў і выбар сасісак і кілбас. Для дзяцей нам параілі ўзяць «Аляксееўскія». І сасіскі, і сардэлькі, і кілбасу гэтага гатунку вырабляюць па старадаўнім рэцэпце: прыправы, мяса і зусім нязначны кансервант. «Можаце смела даваць свайму дзіцяці», – запэўнілі ў краме.

Захацелася і чаго-небудзь на бутэрброды, пакуль той шашлык пасмажыцца. Кладу ў кошык масла, батон. Засталася бутэрбродная кілбаска. Каб выбраць «правільную», многія гаспадыні просяць паглядзець яе ў разрэзе. Толькі вось захоўвацца разрэзаная кілбаса нядоўга. На «Вялес-Міце» ўсё прадугледзелі. На гэтым прадпрыемстве першымі ў Беларусі пачалі выпускаць мясную кілбасу са зрэзам у вакуумнай упакоўцы: і пакупніку ўсё бачна, і прадукт доўга захоўваецца.




Бутэрбродная і шашлыкі – для ўсіх, «Аляксееўскія» – для дзетак. А як жа муж? А для яго ў фірмовай краме «Вялес-Міта» нам прапанавалі рульку да піва – страву, якую маладзечанскае прадпрыемства гатуе сумесна з літоўскай півварняй.

Аказалася, сабрацца на пікнік у адной краме – рэальна. Вядома, калі гэта фірмовая крама «Вялес-Міт».

**Ксенія ДУРОВІЧ.**



# Археалагічныя летнікі ў рэгіёне запрашаюць далучацца

ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

**Сёлета археолагі і валанцёры ладзяць працу археалагічных летнікаў на Смаргоншчыне і Вілейшчыне.**

Усе летнікі запланаваныя на ліпень. Час іх дзейнасці часткова супадае. Таму абірайце, што вам больш цікава, і далучайцеся.

### Даследуйце гарадзішча ў Крэве

Ад 4 да 18 ліпеня мясцовы дабрачынны фонд «Крэўскі замак» ладзіць археалагічныя раскопы ў Крэве. Кіраўнік прац падчас летніка – **Алег Дзярновіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Пражыванне: намётавы гарадок. Бясплатнае харчаванне. Культурніцкая праграма.

Па пытаннях удзелу можна звязацца з Алегам Дзярновічам па тэлефоне (8-029) **331 66 06** ці **Вольгай Сямашкай** праз фэйсбук.

Запрашаюць грамадскія арганізацыі і ініцыятывы да правядзення супольных мерапрыемстваў у Крэве.

На леташніх раскопках знайшлі старажытны горад Крэва – той, які існаваў тут да таго часу, пакуль у 14 стагоддзі пабудавалі Крэўскі замак.

Знаходкі пацвердзілі тое, што ў жыхароў старажытнага Крэва была добра развітая ювелірная вытворчасць. Знайшлі матрыцу для вырабу жаночых упрыгажэнняў, а таксама бранзалеты і шкляныя пацеркі.

Па словах кіраўніка экспедыцыі, з рыдлёўкамі на раскопках стаялі розныя людзі: гісторыкі, айцішнікі, літаратары.

Была насычаная культурніцкая праграма. У летнік прыязджалі паэт **Уладзімір Някляеў**, паэт і бард **Андрэй Хадановіч**, спявак **Зміцер Бартосік**, гурт «Мярэжа», этнаграфічны клуб «Кола».

### Шукайце старадаўнія вырабы ільянскай шкляной гуты

Сёлета ў чарговы раз сталічныя даследчыкі-археолагі прыедуць у Ілью, каб даследаваць месца, дзе ў другой палове 18 стагоддзя працавала гута – завод па вырабе шкла.

Экспедыцыю праводзяць ад 10 да 30 ліпеня ў межах вучэбнай археалагічнай практыкі гістфака БДУ, распавяла адна з кіраўнікоў выкладчыца БДУ **Паліна Курловіч-Бяляўская**.

Жыць удзельнікі экспедыцыі будуць у кемпінгу на беразе ракі Іліі на ўскраіне вёскі.

Плануюць разабраць і апрацаваць аб'екты вытворчай пляцоўкі прадпрыемства. Будуць экскурсіі, адукацыйныя і культурніцка-забаўляльныя мерапрыемствы.

Ахвотныя паехаць у якасці валанцёраў, звязвайцеся непасрэдна з кіраўніцтвам для абмеркавання ўсіх умоў. Паведамляйце тэрміны ўдзелу, а таксама ці ёсць у вас свой намёт. Звязацца з Палінай Курловіч-Бяляўскай можна праз сацыяльныя сеткі або па тэлефоне (8-033) **661-27-01**.

У мінулым годзе археолагі знайшлі рэшткі шкляных вырабаў, печку, дзе выплаўлялі шкло, шмат манет розных часоў і розных краін. Нейкім невядомым чынам тут апынулася манета Свяшчэннай Рымскай імперыі.

Знойдзеныя косткі жывёлы адправілі ў Маскву на экспертызу археазаолагу.



Фота забяспечанае Палінай КУРЛОВІЧ-БЯЛЯЎСКАЙ.

Падчас леташніх і пазалеташніх раскопак у Ільы знайшлі шкло, керамічны посуд, рэшткі тытунёвых люлек, косткі жывёл.

### Вывучайце старажытныя курганы ў Нясцёрках

Запрашаюць таксама ў валанцёрскі археалагічны летнік «Нясцёркі-2018» на Вілейшчыне.

Археалагічныя даследаванні па вывучэнні крывіцкіх курганоў канца I – пачатку II тысячагоддзяў нашай эры будуць праводзіцца ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці ад 16 да 30 ліпеня 2018 года.

Задаць пытанні можна: навуковы кіраўнік летніка – кандыдат гістарычных навук дацэнт **Мікалай Плавінскі**, маб. (8-029) **679-36-67**, plavinski.arc@gmail.com.

Каардынатар – **Дзяніс Канецкі**, маб. **+375 29 128 00 37.**

**Аддзел інфармацыі.**




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Ровар "Racer", дарожны, колы 26 цаляў. Т. Вэлком (8-029) 9127234.

• Ровар дарожны, мотаровар, балон газавы бытавы. Т. (8-0176) 532172, (8-044) 4944849.*

• Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Электрабайк новы, з гарантыяй. Магутны матор 1500 W, батарэя 72v20ah, хуткасць 50 км/гадз. Т. (8-029) 1383623.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, мініэкскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 74, раён Зеніт. Усе пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 7681486, (8-029) 1576792, Ірына.

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі, альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе альбо мяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693, (8-0176) 531545.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чкалава. Т. (8-029) 5948745.*

• Гараж у Смаргоні, ГБПК-5 (на ўездзе). Цана дагаворная. Т. (8-029) 6122421.

• Дача ў в. Кардон Вілейскага раёна. Знаходзіцца на краі дачнага кааператыва, каля яловага лесу. Ёсць калодзеж, лазня з парылкай. 7 сотак зямлі. Кошт 10 900. Т. (8-029) 2789116, хатні 53096.*

• Дом паміж Смаргонню і Вілейкай, участак 25 сотак, цана 3000 руб; участак у Вілейцы. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

• Дом у в. Жары Вілейскага раёна альбо на вываз. Т. (8-0176) 533458.*

• Дом у в. Людвінова. Прадам парасят, 9 тыдняў. Т. (8-033) 6698067.

• Дом у в. Папоўцы Мінскай вобласці. Т. (8-029) 8587518.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Ярмолічы Вілейскага раёна, танна. Т. Вэлком (8-029) 9880334, (8-029) 9815728.*

• Дом у Маладзечне пасля пажару, 80 кв.м, участак 0,6. Гараж, хлеў, лазня не пашкоджаныя. Т. (8-029) 7469707, (8-029) 2582660.*

• Дом у Смаргоні па вул. Трактарнай у добрым раёне, 15 сотак з забудовай, гараж, хлеў, водаправод на ўчастку. Цэнтральны газ і каналізацыя праходзяць каля дома. Альбо мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Смаргоні ці Маладзечне. Т. (8-029) 6601162, (8-029) 6731333 Іван.*

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*

• Склад-ангар, 200 кв. м, у раёне водаканала г. Маладзечна альбо здам у арэнду. Нядорага. Т. (8-029) 6423464, Віталій.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любыя вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Пяць правілаў, якія дазваляюць немцам зарабляць больш, а працаваць менш

**Нямецкая навука, тэхналогіі і падыход да справы славяцца ва ўсім свеце. Пры гэтым у многіх арганізацыях ідуць на скарачэнне рабочага часу. Як ім удаецца за меншы час рабіць больш і быць паспяховымі, чытайце ў нашым артыкуле.**


Фота FreeStock

### Правіла 1. На працы – толькі праца

Папіць чаю ў суседнім кабінеце, расказаць калегам, з-за чаго пасварыўся з жонкай, праверыць сацыяльныя сеткі, паперапісвацца ў скайпе з калегай, каб паскардзіцца на начальства, заказаць талон у паліклініку для дзіцяці, пачытаць навіны пра любімы серыял, выбраць мадэль новага тэлефона, аплаціць камунальныя з рабочага камп'ютара – усе гэтыя шкодныя звычкі, такія папулярныя сярод беларусаў.

Немцы ж выдатна разумеюць, што час на працы аплачваецца не за тое, каб вы вырашалі свае асабістыя праблемы. Вам плацяць за эфектыўнасць. І калі замест працы займацца рознымі пабочнымі справамі, часу на саму работу застаецца не так і шмат. Многія беларусы дазваляюць сабе займацца хоць чым, абы не працаваць. Гэта моцна б'е па ўласных выніках, шкодзіць кампаніі і ўвогуле ўсім. Таму адразу і рэзка спыняюць і робяць заўвагу калегам, якія марнуюць рабочы час на свае праблемы.

Гэта не значыць, што нельга зрабіць перапынак на каву і коратка абмеркаваць з калегамі тое, што хвалюе, ці адказаць на званок мужа. Проста такімі справамі нельга злоўжываць.

Як толькі вы самі жорстка паставіце межы паміж працай і асабістым жыццём, у вас з'явіцца больш часу і вы станеце менш стамляцца, а зарабляць, хутчэй за ўсё, пачнеце больш.

> **А самае галоўнае – не скардзіцеся на нізкую зарплату, калі не выкладваецеся на працы на 100%. Паверце, начальства заўсёды бачыць, наколькі шчыра вы выконваеце задачы.**

У дакументальным фільме BBC немка расказвала пра культурны шок, які атрымала ў час працы па абмене ў Вялікабрытаніі. «Работнікі ўвесь час абмяркоўваюць асабістае жыццё ў рабочы час. Высвятляюць, у каго якія планы на вечар і без канца ходзяць піць каву», – расказвала яна. Жанчына была здзіўленая, што калегі пастаянна сядзелі ў сацыяльных сетках. У Германіі ж карыстацца поштай ці «Фэйсбукам» на працы можна толькі для вырашэння рабочых пытанняў.

### Правіла 2. Усё, з чым працуеш, мае мэту

Бізнес-сустрэчы і размовы для немцаў мэтаарыентаваныя. Гэта значыць, што партнёр-немец пасля ветлівага вітання не будзе хадзіць вакол тэмы. Не спытаецца: «А ці магчыма атрымаць мой заказ заўтра а 10 гадзіне?». Ён скажа: «Гэты заказ патрэбны мне заўтра ў 10:00».

Такі падыход эканоміць час абодвум бакам, а таксама нервы. Таму што выключае сумневы, ці так сказаў, ці зразумелі мяне. Праца – гэта зона дакладнасці. І тут кожны абавязаны выконваць сваю ролю, за гэта нам і плацяць. Не месца пакрыўдзіцца ці закрануць чыесьці пачуцці. Мы ўсе на вялізным рынку, дзе кожны прадае свае ўменні ці тавары. Пагаджаецеся на ўмовы – ідзём далей. Не – развітваемся. Усё проста і без лішніх замарочак.

### Правіла 3. Шануй час, гэта самы каштоўны рэсурс

Гэта правіла звязанае з правілам №1. Аднак тут усё крыху шырэй.

У першую чаргу не трэба марнаваць час. Плануйце рабочы дзень, вечары, выхадныя. Складзіце графік важных спраў, якія неабходна паспець.

Тое, што час – гэта грошы, немцы ведаюць выдатна. Хаця ў некаторых установах няма дакладнага графіка працы, усе разумеюць, што адпрацаваць ты павінны, напрыклад, сем гадзін. Можаш прыйсці на працу ў сем раніцы ці ў дзесяць, але адпрацуй сваё. У большасці выпадкаў рабочы час наймальніку кантраляваць не даводзіцца. Усе разумеюць, што, халтурачы з часам, робіш шкоду і сабе, і кампаніі. Таму цяпер у Германіі тыя арганізацыі, якія могуць гэта сабе дазволіць, спакойна пераходзяць да гібкага графіка.

Любое спазненне немцы ўспрымаюць як непавагу да дзелавога пратакола і да сябе асабіста. У многіх культурах, напрыклад, у Лацінскай Амерыцы, быць пунктуальным неабавязкова. Аднак калі вы хочаце арыентавацца на поспех па-нямецку, то вам варта пераймаць іх падыход да вядзення спраў.

### Правіла 4. Гарантыі

Аплачаны адпачынак па цяжарнасці, родах і доглядзе за дзіцем у многіх краінах можа толькі сніцца.

Заканадаўча ў Германіі забаронена рабочы час у суткі перабольшваць за восем гадзін. У надзвычайных выпадках можна працягнуць працу да 10 гадзін. Па гэтай прычыне ў нядзелю не працуе большасць магазінаў – усе павінны мець магчымасць правесці час з сям'ёй. Таму закупляюцца ў Германіі звычайна ў будныя дні ці ў суботу.

### Правіла 5. Якасны і цікавы адпачынак

Адпачынак для немцаў складае 25-30 дзён. Звычайна яго разбіваюць на дзве часткі, каб была магчымасць адпачыць і летам, і зімой.

У выхадныя немцы імкнуцца правесці час у клубе па інтарэсах, парку, забаўляльным цэнтры ці проста з сям'ёй. Таму што кожнаму неабходна добра адпачыць і разгрузіцца, каб быць поўным энергіі і працаваць напоўніцу ў рабочы час.

**Эмілія ХВОЯ.**




Часам катанне на самакаце дзяцей трох-пяці гадоў заканчваецца пераломамі.

# Непапраўнае здараецца не за гадзіну, а за секунду

## Доктар-траўматолаг распавёў пра дзіцячыя траўмы

МАЛАДЗЕЧНА

**Лета – час, калі ў дзіцячых траўматолагаў становіцца больш працы. Бо ў цёплыя дзянькі камусьці хочацца паганяць на самакаце, а камусьці зрабіць сабе дудку з небяспечнай расліны – баршчэўніку.**

Пра тое, на што варта звярнуць увагу бацькам у летнія месяцы, і ўвогуле ў любую пару года, мы пагутарылі з траўматолагам Маладзечанскай дзіцячай паліклінікі **Аляксандрам Запрудскім**.

### Траўма ў маленькіх дзяцей здараецца ў любую пару года

Па словах Аляксандра Мікалаевіча, любая пара года для дзіцячага траўматолага – гарачы час. Траўмы, распаўсюджаныя ў маленькіх дзяцей, не залежаць ад сезоннасці.

– Назіраў, што ў большасці мам няма перасцярогі: прыйдуць на прыём, пакладуць дзіця на кушэтку, а самі адыдуць. На маю заўвагу, што дзіця можа зваліцца на падлогу, адказваюць, што ён у нас яшчэ не варочаецца, – прыгадвае доктар.

### Падумайце, ці трэба дзіцяці самакат

У малых дзяцей, па назіраннях Аляксандра Мікалаевіча, сёння з'явіліся траўмы, якіх раней не было. А ўсё таму, што дзіця раней часу робіць тое, што рабіць не павінна. Напрыклад, сямімесячнага сына або дачку бацькі ставяць у хадуны.

Пералом перадплечча ў двух месцах – траўма, якой у дзяцей першага года жыцця не павінна быць, бо яно не павінна хадзіць. Тым не менш, пастаўленае ў хадуны малое ходзіць. Прыставанні ламаюцца, дзеці з іх вывальваюцца – і бацькі звяртаюцца да дактароў з цяжкімі пераломамі.

Самакаты для трохпяцігадовых – таксама вельмі небяспечныя. У гэтым узросце дзеці, па словах доктара, яшчэ не зусім добра каардынаваныя. Любы каменьчык, няроўнасць на дарозе – вось вам і пералом рукі.

– Варта добра падумаць, перш чым набываць маленькаму сыну або дачцэ такую цацку, – раіць доктар бацькам. – Ці зможаце вы штохвілінна быць побач з дзіцем, калі тое катаецца на самакаце? Усё ж ровары на трох колах – больш бяспечны варыянт.

### Такія небяспечныя цацкі з баршчэўніку

Да сезонных траўмаў у дзяцей адносяць апёкі баршчэўнікам. Яны звычайны здараюцца ў школьнікаў. Расліна прыгожая, са сцяблінь дзеці любяць рабіць дудкі, ножыкі, шпагі. Часцей за ўсё, гуляюць без бацькоў. У выніку – цяжкія хімічныя апёкі другой або трэцяй ступеняў. Часам справа нават да рэанімацыі даходзіць. Асабліва небяспечна, калі такую сцяблíну дзіця падносіць да вачэй або рота.

У любую пару года ў маленькіх распаўсюджаныя кантактныя апёкі, калі дзіця дакранаецца да каструлі, праса, патэльні, печкі. Летам прывозяць дзетак, якія апякліся, дакрануўшыся да гарачага мангала. У дзяцей апёкі хоць і не вялікія па плошчы, але глыбокія.

> Найцяжэй дзеці апякаюцца менавіта дома: праліваюць на сябе гарачую каву, суп.

Быў час, калі малыя спрабавалі розныя хімічныя вадкасці, што выкарыстоўваюцца дома. Прывозілі такіх, што атруціліся вадкасцю для прачысткі каналізацыйных трубаў. Потым вытворцы зрабілі больш надзейную ўпакоўку, і праблема знікла.

### Усе пабеглі, і я пабег

Летам школьнікі, што застаюцца без бацькоўскага нагляду, ламаюць рукі і ногі. Часам пераломы цяжкія, са змяшчэннем, патрабуюць хірургічнага ўмяшальніцтва. У Маладзечне, па словах доктара, добрыя метады лячэння, змешчаныя косці выпраўляюць пад рэнтгенаўскім кантролем.

> По назіраннях траўматолага, найбольш крытычны ўзрост, у якім траўмуюцца, – ад шасці да дванаццаці гадоў. У гэты час яшчэ няма пачуцця тормазу. Моцна развіты дух калектывізму – усе пабеглі, і я пабег.

Найбольш рызыкоўная катэгорыя – хлопчыкі. Яны звычайна хутчэйшыя за дзяўчат-аднагодак, больш актыўныя, рухомыя. У іх – зімой петарды, летам – тарзанкі, скейты, ровары, ролікі.

Падчас летніх канікулаў у паліклініцы доктар кожны дзень прымае пяць-дзесяць чалавек з пераломамі. Часцей ламаюць рукі, радзей – ногі. 80% скаргаў – бег і зачапіўся або зваліўся з ровара. Тыповая вулічная траўма, кажа Аляксандр Мікалаевіч. Яна амаль заўсёды больш цяжкая за школьную або атрыманую дома. Пералом рукі – гэта звычайна гіпс на месяц, пералом нагі – на паўтара.

### Малых не пакідайце, большых займайце

– Ці заўсёды трэба звяртацца да доктара, калі дзіця атрымала траўму?

– Калі бачыце, што гэта нязначная драпіна, то, канешне, апрацаваць яе могуць бацькі дома. Калі ж дзіця ўвесь час скардзіцца на боль, абавязкова трэба паказацца доктару. Часта чуеш ад бацькоў, што дзіця можа пакратаць пашкоджанай рукой ці нагой. Але гэта зусім не паказчык таго, што няма пералому. Можа здарыцца і так, што ацёку няма, а пералом ёсць. Гэта асаблівасці дзіцячых траўмаў. Таму калі маеце нейкія мізэрныя сумненні, абавязкова пакажыце дзіця дактарам. Пра тое, ёсць пералом ці няма, траўматолаг скажа, калі ўбачыць здымак.

– Якія парады можна даць бацькам, каб пазбегнуць непрыемных здарэнняў з дзецьмі?

– Маленькіх дзяцей не пакідаць адных ні на хвіліну, кантраляваць іх рухі. За большымі дзецьмі ўсочыш не заўсёды. Тут можна толькі параіць максімальна заняць дзіця: гурткі, секцыі, летнікі.

> Памятайце, што дзеці не шукаюць прыгод, яны проста гуляюць. Аднак гульня гэта павінна быць бяспечнай для іх здароўя і жыцця. Калі пакідаеце малых з дзядулямі і бабулямі, улічвайце, што гэта людзі ва ўзросце. Не стаўце ў дзіцячай даступнасці гарачыя прадметы.

Былі выпадкі, калі дзіця да года пад'язджала на хадунах да стала і скідвала на сябе кубак з кіпенем.

> Здараецца так, што траўмы, атрыманыя ў дзяцінстве, турбуюць потым усё жыццё. Напрыклад, апёк – гэта заўсёды вялікі стрэс для арганізма і рубцы, якія застаюцца на скуры. Пералом са змяшчэннем часам прыводзіць да таго, што абмяжоўваюцца рухі рукі ці нагі.

– Разумееце, непапраўнае здараецца не за гадзіну, не за паўгадзіны, а за адну секунду. Вось толькі што ўсё было добра, а праз секунду здарылася жахлівае. Бацькам заўсёды варта памятаць пра гэта, – заканчвае нашу гутарку Аляксандр Мікалаевіч.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Востры гумар і непазбежная туга старасці

## Як акцёры праціналі наскрозь маладзечанцаў спектаклем «Вечар»



Самы рамантычны момант. Да Ганны (Алена Рахмангулава) сватаюцца адразу абодва – злева Васіль (Віктар Багушэвіч) і Мікіта (Алег Чэчанеў).



Аўтар п'есы «Вечар» Аляксей Дудараў.

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад душы пасмяяцца, трошкі паплакаць і ўвесь час думаць пра старых бацькоў і пра сябе, калі станеш такім, як цяпер яны. Па гэтыя эмоцыі ідуць на спектакль «Вечар».**

«Вечар» Дударава вы ці праходзілі ў школе, ці чыталі, ці чулі, што гэта выдатная п'еса. Можа, нават чулі, што яна нечым падобная да яго сцэнарыя да фільма «Белыя росы», толькі яшчэ лепшая. Але маладзечанская пастаноўка «Вечара» – той самы выпадак, калі акцёры дадаюць твору сэнсу і смаку.

8 чэрвеня лірычную меладраму «Вечар» паставілі ў Мінскім абласным драмтэатры ў межах Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі, прысвечанаму Году малой Радзімы.

Зала была амаль цалкам запоўненая. А сярод гледачоў былі ганаровыя госці – аўтар п'есы **Аляксей Дудараў** і кампазітар **Алег Залётнеў**. Напрыканцы яны выйшлі на сцэну да акцёраў, з якімі цёпла віталіся, віншавалі з цудоўным выступленнем і дзякавалі за пранікнёную ігру.

Ёсць тры прычыны, чаму пастаноўка «Вечара» ў Маладзечне настолькі якасная, што яе наведаць павінны кожны.

**1). П'еса.** Калі Дудараў выдаў «Вечар» у 80-х, яе ставілі многія тэатры. У Маладзечне заняліся ў пачатку 2000-х, і сам Дудараў спрычыніўся да падрыхтоўчай працы.

**2). Рэжысёр-пастаноўшчык Валеры Мазынскі.** А гэта значыць, што нават школьнікі, якіх прывялі на спектакль, глядзяць на сцэну з захапленнем.

**3). Мастацкае афармленне.** Яго зрабіў сын аўтара п'есы Максім Дудараў. Гледачу застаецца здзіўляцца, як лоўка акцёры абыгрываюць дэкарацыі і як яны складзеныя – і проста, і столькі сэнсу ўкладзена.

**4). Касцюмы Таццяны Дзямідавай** нагадваюць вам пра бабулю і дзядулю ў вёсцы.

**5). Самае адказнае – гэта, канешне, бліскучыя акцёры.** Усе 16 год у «Вечары» іграе адзін склад – **Алег Чэчанеў**, **Алена Рахмангулава** і **Віктар Багушэвіч**. З таго часу многае змянілася. Багушэвіч, напрыклад, пераехаў у Мінск. Але замену яму шукаць не сталі. На выступленні ён прыязджае, каб нязменна сыграць Мульцыка.

Калі пастаноўка толькі выйшла ў свет, акцёры былі зусім маладыя. Загадчык літаратурнай часткі **Аляксандр Пыцько** прыгадвае, што даводзілася добра працаваць над грымам, каб «састарыць» акцёраў. Але ўсе яны ўтраіх настолькі ўжыліся ў вобразы, настолькі ўразілі гледачоў пераўвасабленнем, што нават складаная рэтуш стала ненастолькі патрэбнай.

### Пра што спектакль

У апусцелай вёсцы жывуць апошнія жыхары – састарэлыя Ганна, Васіль, ці Мульцік і Мікіта з мянушкай Гастрыт. Ганна з-за вайны страціла траіх дзяцей і мужа. Чацверты сын трапіў у турму. Ад Мікіты дзеці збеглі ў горад, а Васіль усё чакае ліста ад сына Грышкі, але лістоў даўно няма.

У кожнага з іх свая жыццёвая бяда, сум і надзея. Усе яны ў вечары свайго жыцця шкадуюць аб тым, што было не так, спрабуюць знайсці нешта светлае ў сваім сёння і гавораць пра дзяцей, якіх даўным-даўно не бачылі.

У тым узросце, калі даруюць усе крыўды, раскрываюцца сакрэты, а сказанае становіцца вялікай мудрасцю, яны дзеляцца сваім досведам з гледачом. А той у адказ смяецца, выцірае слёзы, дзеліць пранізлівую тугу, якая можа вярнуцца, калі і сам дойдзеш да свайго вечара.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## Цытаты герояў

**Васіль:** Даў нам Бог жыццё, каб мы ўсё гэта сагрэлі... Душамі сваімі сагрэлі! Дык грэй жа, грэй! Хаця чым табе грэць? Халодны ты...

**Ганна:** Вунь дактары па радзіву на жанок цяжарных сварацца: піць няможна, курыць няможна, хвалявацца няможна... А то дзіцёнак дрэнны родзіцца... А пад бомбамі ляжаць можна? А жыўцом гарэць у свaёй хаце можна? А сядзець во з такім жыватом у сцюдзёнай балотнай твані можна? А ўвесь час калаціцца ад страху, што цябе во-во схопяць і заб'юць, – можна? А галадаць можна? А самой у людзей страляць можна? (Паўза.) Ён, мой Віцёк, яшчэ там, у мяне пад сэрцам, на ўвесь свет абазліўся. Якім жа яму было яшчэ нарадзіцца? Толькі няўдачным...

**Гастрыт:** Паплакала мая Алёна, паплакала дый пайшла за мяне. Забылася, здаецца, пра ўсё. І вяселле было добрае. І яна вясёлая. Усё добра! Шчасце! Дачакаўся свайго! (Паказаў кукіш.) Во! З маслам, як кажуць! Не, яна ніводнага разу не ўспомніла пра Андрэя. А толькі душой я адчуваў, душой, што клалася яна са мной спаць, як у труну кладуцца. Засне, дык ужо потым абдымае мяне, цалуе, шэпча нешта... Не разумеў, што з бабай робіцца. А яна, аказваецца, яго, Андрэя, у сне бачыла, у сне лашчыла... Перад смерцю прызналася... Сорак гадоў жыла са мной, а па начах яго абдымала!



Міхаіл Леванчук (з крыжам) са сваёй сям'ёй і члены рады крэўскай Аляксандра-Неўскай царквы. 1930-я гады.

# Уставілі ў рот карабін і выстралілі

## Як у 1944 годзе за беларушчыну забілі святара і яго сваякоў

СМАРГОНЬ

**Яшчэ ў даваенныя гады крэўскі праваслаўны святар Міхаіл Леванчук смела выказваўся супраць апалячвання заходніх беларусаў і быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы.**

Пра гэта сведчаць найстарэйшыя жыхары Крэва і іншыя сучаснікі. Вядомы беларускі каталіцкі святар **Адам Станкевіч** у сваім дзённіку занатаваў наступны выпадак. Аднаго разу польскія настаўнікі са школ з-пад Крэва прывялі сваіх вучняў у царкву на экскурсію. Нягледзячы на пратэст педагогаў, святар вёў гутарку з вучнямі на роднай для іх беларускай мове, а не па-польску.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза ўся моц сталінскіх рэпрэсій скіравалася ў бок былых ваенных, служачых і заможных сялян, якія ў большасці сваёй былі палякамі альбо апалячанымі каталікамі.

Калі землі Заходняй Беларусі занялі гітлераўцы, пачалася зваротная рэакцыя: мясцовыя палякі пачалі выдаваць гітлераўцам тых, да каго адчувалі нянавісць, прадстаўляючы іх савецкімі актывістамі. Нярэдка ў шэрагі гэтых людзей палякі ўключалі прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія яшчэ ў даваенныя часы змагаліся з апалячваннем.

**Калі ў лясах Крэўскай воласці з'явіліся атрады польскай Арміі Краёвай, яны ўзяліся знішчаць беларускі нацыянальны актыў самастойна.**

Хоць мы і называем легіянераў Арміі Краёвай палякамі, мы разумеем, што вялікую частку, калі не большасць, гэтых падпольных фарміраванняў у нашай мясцовасці складалі беларусы-каталікі. Яшчэ да сённяшніх дзён захаваліся дзе-нідзе звычкі дзяліць мясцовых хрысціян паводле веравызнання на рускіх-праваслаўных і палякаў-каталікоў.

Таму, блытаючы паняцці, некаторыя з беларусаў-каталікоў лічылі сябе палякамі і па нацыянальнай прыналежнасці. І папаўнялі шэрагі Арміі Краёвай часта па прымусе такіх самых легіянераў або па якіх заўгодна іншых прычынах, толькі не з-за нейкіх ідэйных меркаванняў.

Але былі і такія ахвяры прапаганды, хто адносіў сябе да палякаў свядома. І часта менавіта яны былі найбольш небяспечнымі для тых, хто не падзяляў іх поглядаў.

Апошняй кропляй нянавісці гэтых ворагаў да крэўскага святара стала стварэнне ім у Крэве беларускай школы. Дамогшыся ад нямецкага кіраўніцтва ў Мінску дазволу, святар адчыніў школу ў адным з пакояў свайго вялікага дома. Ён сам, яго дачка **Ларыса** і пляменніца **Валянціна Шкуцько** пачалі праводзіць тут заняткі.

Азлобленым прыхільнікам польскасці заставалася чакаць зручнага моманту, каб адпомсціць. І гэты момант хутка надышоў.

Жорсткае забойства здарылася ноччу з 14 на 15 сакавіка 1944 года. Дзве брыгады Арміі Краёвай падышлі з розных бакоў да Крэва, каб раззброіць гарнізон літоўскай паліцыі. Гарнізон пачаў размяшчацца ў мястэчку, калі немцы перадалі наш край у падпарадкаванне генеральнай акругі Літвы.

Паліцаяў раззброілі, страт не было ні з польскага, ні з літоўскага боку.

**Ахвярамі ж у тую трывожную ноч сталі святар крэўскай царквы айцец Міхаіл, яго дачка і пляменніца. Адбылося ўсё наступным чынам. Калі акцыя па захопе паліцэйскага пастарунку завяршылася, да дома святара накіравалася група «акаўцаў» з трох чалавек. Па словах старажылаў, гэта былі якраз гэтак званыя «палякі» з тутэйшых. Выконвалі яны загад свайго начальства ці завіталі сюды самастойна, пра тое невядома.**

У гэты час у доме Леванчукоў былі сам святар, Ларыса, Валянціна і адна з мясцовых дзяўчат, якая працавала тут служанкай. Жонка святара **Лізавета** і сын **Леанід** былі ў гэты час у ад'ездзе, і таму яны пазбеглі расправы.

Калі бандыты загрукалі ў дзверы, служанка схавалася ў склеп пад домам, што і выратавала ёй жыццё. Адтуль яна чула ўсё, што адбывалася наверсе, а пасля пераказала пачутае аднавяскоўцам.

**Адчыніўшы на грукат дзверы, айцец Міхаіл зразумеў, што чакае яго. Ён папрасіў катаў, каб дазволілі памаліцца перад смерцю. «Акаўцы» ў гэты час прывялі ў пакой дачку і пляменніцу. У іх прысутнасці адзін з бандытаў уставіў у рот святару карабін і выстраліў. Пасля забілі дзяўчат.**

Ахвяры начнога нападу знайшлі свой апошні прытулак ля царкоўнай сцяны. Крыху пазней на іх магілах паставілі помнікі.

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

● КАЛЯНДАР

15 ЧЭРВЕНЯ

**1882.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Галубок**, пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

16 ЧЭРВЕНЯ

**1686.** Паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй заключаны «вечны мір».

17 ЧЭРВЕНЯ

**1993.** 225 гадоў таму ў Гродне пачаўся апошні сейм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў другі падзел Рэчы Паспалітай і прыняў новую Канстытуцыю.

18 ЧЭРВЕНЯ

**1911.** Нарадзіўся **Аляксандр Шыдлоўскі**, в.Мінкі, цяпер Смаргонскі раён, знакаміты беларускі культурны дзеяч, кампазітар, педагог. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Ганаровы грамадзянін Гродна і Смаргоні. Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў артыстам хору Рыгора Шырмы, выступаў перад параненымі ў шпіталях, працаўнікамі тылу, ездзіў па франтах. У яго творчай спадчыне каля 200 твораў. Песня «Колькі ў небе зор» – самая папулярная і вядомая. Аляксандр Шыдлоўскі (на той час працаваў дырэктарам Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці) напісаў і словы, і музыку, прысвяціўшы сваёй жонцы Варвары Яфімаўне. Сябраваў з Максімам Танкам. Памёр у 2002 годзе ў Гродне.

**1910.** Памерла **Эліза Ажэшка**, польска-беларуская пісьменніца, удзельніца паўстання 1863–1864 гадоў. Ад 1869 года жыла ў Гродне, дзе і пахаваная.

21 ЧЭРВЕНЯ

**1741.** Нарадзіўся **Жан-Эмануэль Жылібер** (в. Карэт каля Ліёна), французскі натураліст, хірург і анатам, стваральнік і кіраўнік Гродзенскай медыцынскай акадэміі. Па просьбе Антонія Тызенгаўза ў 1770-х гадах прыехаў у Гродна для арганізацыі ўрачэбнай школы. Тут ён заснаваў батанічны сад, адкрыў у 1775 годзе Урачэбную акадэмію (дзейнічала да 1781 года). Пры акадэміі працавала аптэка (цяпер гродзенская аптэка-музей), побач з якой знаходзіўся аптэкарскі агарод і вырошчваліся лекавыя і вострадухмяныя расліны. Разам са сваімі вучнямі вывучаў прыроду Беларусі і Літвы, збіраў гербарый у ваколіцах Гродна, Брэста, Беластока, Нясвіжа, Навагрудка, Вільні. У выніку з'явілася праца, у адным з раздзелаў якой даў апісанне 95 відаў лекавых раслін, прывёў звесткі аб часе іх цвіцення, апісаў лекавыя ўласцівасці траў і прымяненне іх у быце. Памёр у 1814 годзе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Вырашыў, што імпатэнт, і захацеў праверыць мужчынскую сілу на пяцігадовай падчарцы

## З чым сутыкаюцца работнікі судова-псіхіятрычных экспертыз і што адбываецца з псіхікай у грамадстве

МАЛАДЗЕЧНА

**Чаму бацькам адораных дзяцей варта быць асцярожнымі, як з шызафрэніяй звязаныя Тэсла і Гітлер і для чаго ісці да экспертаў перад завяшчаннем, чытайце далей.**

Пра гэта мы паразмаўлялі з начальнікам сектара судова-псіхіятрычных экспертыз Маладзечанскага міжраённага аддзела Камітэта судовых экспертыз **Жаннай Буцько**.

### Зрабіце экспертызу перад завяшчаннем

Людзі ў сталым узросце часта хочуць скласці завяшчанне ці аформіць пажыццёвую рэнту – каб жыллё перайшло таму, хто іх даглядае. У такіх сітуацыях мінімум два зацікаўленыя бакі – сваякі і той, хто даглядае.

Пажадана праводзіць экспертызу, таму што ў далейшым вельмі складана даказаць, які псіхічны стан чалавека быў на момант здзелкі. Экспертыза абараняе ўсіх. Працэдуру можна прайсці ў сектары.

### Што правяраюць для суда

Спецыялісты сектара праводзяць экспертызы абвінавачаных, падазраваных, сведкаў і пацярпелых па крымінальных справах. У абвінавачаных і падазраваных глядзяць, ці ёсць псіхічнае захворванне на момант экспертызы і ці было на момант злачынства. Эксперты павінны адказаць, ці мог чалавек усведамляць характар і грамадскую небяспеку дзеянняў. На аснове гэтых звестак суд выносіць рашэнне, ці ўсведамляў чалавек, што робіць.

У выпадку са сведкамі і пацярпелымі эксперты таксама павінны адказаць, ці ёсць у іх хваробы, адставанні ў псіхічным развіцці і ці можа чалавек правільна асэнсоўваць абставіны, што маюць значэнне для справы, і даваць пра іх паказанні.

Бывае, суд ставіць перад намі пытанне, ці пакутуе чалавек на нейкую залежнасць. Калі ставім дыягназ, што залежнасць ёсць, разглядаецца пытанне лячэння.

У сярэднім у год мы маем 800-1000 экспертыз. З іх чалавек 10 тыя, у каго знаходзяцца адхіленні.

### Дзеці: ці былі ў бездапаможным стане

Працуем з дзецьмі, над якімі ўчынілі гвалт, у тым ліку сэксуальны. З дзецьмі, якіх спакушалі, спрабавалі згвалтаваць ці згвалтавалі, кралі. Мы павінны ацаніць, наколькі яны разумелі, што з імі рабілі, ці былі яны ў бездапаможным стане. Калі не разумелі ні характар, ні значэнне, ці не разумелі значэнне, значыць, былі ў бездапаможным стане, і гвалтаўнік атрымае больш суровае пакаранне.

Дзеці ў 12-15 год часта разумеюць характар, але не значэнне. Усведамляюць, што з імі зрабілі нешта кепскае, але да чаго ўсё гэта магло прывесці – не.

### Усе вычварэнствы – на глебе сэксу

Вычварэнствы трапляюцца, але такога, як напрыклад, канібалізм – не было. Пераважна ўсе яны з сэксуальным складнікам.

Здараецца такое. Мама пачынае жыць з новым мужчынам. У яе ёсць дачка год 9-12. Паступова ў дзяўчынкі пачынаецца палавое выспяванне. І новы мужчына можа ўступаць у палавую сувязь з дзяўчынкай.

**Адзін мужчына вырашыў праверыць, наколькі дзяўчынка з'яўляецца цнатлівай. А дзяўчынцы было 11-12 год. Звычайна такія людзі маюць тую ці іншую залежнасць.**

Быў выпадак, калі жанчына з пяцігадовай дачкой пачала жыць з новым мужчынам. А ён вырашыў, што стаў імпатэнтам, і захацеў праверыць сваю мужчынскую сілу на гэтай дзяўчынцы.



Вызначыць, хто з шэрагу людзей мае адхіленні, зусім няпроста. А тым больш спрагназаваць, на што гэтыя людзі здольныя.

Фота jazzestudios.com

**– Калі людзі з адхіленнямі вяртаюцца з турмы, наколькі грамадства ад іх абаронена?**

– Калі гэта гвалтаўнік, яны становяцца на ўлік у міліцыі, там праводзяць прафілактычную работу. Пэўны час назіраюць, а пасля здымаюць з уліку.

Калі вызваляецца псіхічна хворы чалавек, за ім наглядае псіхіятр.

Любое псіхічнае захворванне небяспечнае для грамадства. Ніхто не ведае, калі можа быць зрыў рэмісіі. Абвастрэнне проста прыходзіць. Тыя, хто жыве разам, могуць нават не заўважыць. Нават псіхіятр – сёння на прыёме ўсё было нармальна, а заўтра можа штосьці шчоўкнуць, і ён здзейсніць страшнае.

### Межы магчымага

**– Ці можа псіхіятр ацаніць межы магчымага для канкрэтнага чалавека?**

– Адназначна адказаць нельга. Нават пры дэпрэсіі, здаецца, навошта яму шкодзіць іншым? Але ён можа вырашыць, што трэба камусьці зрабіць шкоду, каб самому было лепш. Напрыклад, так сказалі галасы.

Нярэдка бацькі спрабуюць пазбавіць дзеяздольнасці дзяцей, а дзеці – бацькоў для таго, каб вырашаць маёмасныя пытанні на сваю карысць.

**– Пры экспертызах ці пагружаецеся вы ў альтэрнатыўны свет хворых людзей?**

– Ні ў якім разе нельга пагружацца ў свет іх перажыванняў. Калі пагружацца ў чужое трызненне, шызафрэнія можа развіцца ў цябе.

Звычайна шызафрэнія сустракаецца праз пакаленне. Хворая бабуля – магчыма, захварэе і ўнук. Аднак здараецца, была хвароба ў маці. Яна ўвесь час спрабавала лячыць сына, і ў выніку шызафрэнія развілася і ў яго.

**– Паводле сусветнай статыстыкі, хворых на шызафрэнію 1% насельніцтва. Калі Гітлер вынішчыў душэўнахворых, то нейкі час у Германіі псіхічных хваробаў не было зусім. Аднак насельніцтва аднавілася, і іх зноў стаў 1%. Гэта нейкі неабходны баланс, псіхічна хворыя людзі патрэбныя прыродзе, ці проста гены перадаліся?**

– Прычын шызафрэніі вельмі шмат, і ніхто дакладна пакуль не змог адказаць, з-за чаго яна развіваецца. Спадчынны фактар займае адно з апошніх месцаў.

Нярэдка з'яўляецца ў адораных людзей. Таму бацькам варта быць асцярожнымі, калі іх дзіця адоранае. Такія людзі вылучаюцца з агульнай масы, іх мозг працуе неяк па-іншаму. Аднак яны могуць і не мець хваробы.

Ёсць пэўныя прафесіі, куды адметныя людзі ідуць, напрыклад, філасофія. Наколькі звычайны чалавек можа паглыбіцца ў такія рэчы? Матэматыка, фізіка патрабуюць пэўнага складу розуму.

**– І калі задаць хвораму задачку на выключэнне лішняга, ён яе рашыць, прымяніўшы такую логіку, да якой звычайны чалавек ніколі не дадумаўся б. Адоранасць мяжуе з псіхічнай хваробай, як у Тэслы, напрыклад, геніяльнага фізіка, які ў канцы жыцця закахаўся ў голуба, так?**

– Так, але даволі складана ацаніць, што норма, а што адхіленне ад яе. Паталогія – тое, што адрозніваецца ад нормы. І цяпер даволі асцярожна ставяцца да дыягназаў. Усё часцей ставяць не хваробу, а тое ці іншае расстройства. Такі падыход больш беражлівы да чалавека, дапамагае лепш адаптавацца ў грамадстве.

Часам чалавек проста стомлены і праяўляе латэнтныя прыкметы шызафрэніі.

**– Калі сусед расказвае пра іншапланецян, як лепш адрэагаваць – падтакваць ці сказаць, што гэта лухта?**

– Лепш пазбягаць такіх размоў. Казаць, што ўсё гэта лухта, не варта, таму што па сваіх вар'яцкіх матывах ён можа вырашыць, што вы яго вораг, пераследуеце ці хочаце нашкодзіць. Паведаміце псіхіятру ці ўчастковаму, ну, ці сваякам.

Але трызненне – адноснае пытанне. Адкуль ты ведаеш, што гэта няпраўда? Здаралася, што чалавек расказваў, нібы яго пераследуе. Але ж гэта можа быць і праўдай. Даволі часта старыя кажуць, што ў іх крадуць рэчы. Ну, здаецца, лухта. Аднак калі добра паглядзелі справу, аказалася – праўда, крадуць сваякі ці суседзі. Прасцей за ўсё спіхнуць на іх узроставы маразм ці кепскую памяць. Трызненне – гэта непраўдзівая выснова, што не паддаецца карэкцыі. Зможаце пераканаць чалавека – значыць, ён проста памыляўся.

**– Ці шкадуеце вы злачынцаў, якія шчыра раскайваюцца?**

– Пераносіць гэта на сябе нельга ні ў якім разе. Таму што не зможаш працаваць. Усе яны пішуць «за здзейсненае раскайваюся». Фраза фармальная, а што за ёй стаіць – ацаніць цяжка. Бывае, плача, кажа, як шкадуе. Але хто яго ведае, раскайваецца ён ці спрабуе выбіць мякчэйшы тэрмін.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ТЭМА НУМАРА



Трапіць дзіця ў гімназію ці пойдзе ў школу па месцы прапіскі, будзе вядома 28 жніўня.

# «Ноччу з пледамі і кавай сядзелі на вуліцы пад дзвярыма»

## Бацькі будучых першакласнікаў распавялі, як запісвалі дзіця ў гімназію

МАЛАДЗЕЧНА

**12 чэрвеня ў Беларусі стартавала кампанія па наборы дзяцей у школы і гімназіі. Аднак, па словах бацькоў будучых першакласнікаў, чарга каля маладзечанскай гімназіі №6 пачала збірацца ўжо раніцай 11 чэрвеня.**

– Мы прыйшлі крыху пазней, – распавяла карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» мама будучай першакласніцы, – на той момант людзі ўжо стаялі ў фае гімназіі. Самі склалі спіс, дзе пазначалі, хто за кім пойдзе падаваць дакументы. Людзі адыходзілі ненадоўга, пасля зноў прыходзілі. Кожны сачыў за сваёй чаргой.

Па словах мамы, да вечара 11 чэрвеня мамы, таты, бабулі і дзядулі сядзелі ў фае школы. Вечарам, калі прыйшоў час зачыняць дзверы ў гімназію, чарга перамясцілася на вуліцу. Але ніхто не сыходзіў. Чакалі раніцы, калі пачнуць прымаць дакументы.

– Паміж бацькамі не ўзнікала ніякіх непаразуменняў, скандалаў, – кажа чытачка. – Наадварот, большасць пасябравала. Нанач прынеслі пледы, каву. Размаўлялі, шмат жартавалі, смяяліся.

Ад раніцы 12 чэрвеня пачалі прымаць дакументы. Бацькі па чарзе заходзілі ў кабінет, дзе падавалі дакументы.

Сям'я нашай чытачкі прапісаная не ў мікрараёне гімназіі. Але сюды хацелі б трапіць з-за англійскай мовы. Многім бацькам зручна было б вадзіць дзіця сюды, бо тут вучацца іх старэйшыя дзеці.

Ці паступіць дзіця ў гімназію, стане вядома 28 жніўня.

**Калі ж раптам у жаданую навучальную ўстанову дзеці не трапяць, многія з бацькоў настроеныя хутка рабіць прапіску ў патрэбным мікрараёне.**

### Упраўленні адукацыі раёнаў: у Вілейцы і Смаргоні ажыятажу няма

Па словах начальніка ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму **Ігара Шчаснага**, у Смаргоні праблем з паступленнем у адзіную гімназію горада няма: возьмуць усіх ахвотных. На думку Ігара Пятровіча, ажыятаж з паступленнем у гімназіі больш уласцівы для вялікіх гарадоў.

Намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму **Ірына Лобан** распавяла, што ў гімназіі Вілейкі падаюць дакументы і сем'і, што прапісаныя ў мікраране, і не прапісаныя, але ахвотныя. Ажыятажу і начных чэргаў няма.

### Упраўленне адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага раёна: дакументы прымаюць без скандалаў

Намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму **Жанна Карповіч** распавяла, што прыём у маладзечанскія гімназіі адбываецца спакойна, без скандалаў. 12 чэрвеня да васьмі гадзін вечара ў гімназію №3 падалі 11 заяў, у дзясятую гімназію – 57.

У кожнай навучальнай установе створаць камісію па прыёме ў першы клас, якая і будзе вырашаць, ці залічаць дзіця ў гімназію.

Нагадаем, што ў студзені 2018 года з падачы міністра адукацыі **Ігара Карпенкі** Указам Прэзідэнта №30 у гімназіях адмянілі ўступныя экзамены ў пятыя класы. Толькі ў гімназіях-каледжах засталіся творчыя выпрабаванні. Для астатніх увялі правіла: паступаць у гімназіі могуць толькі дзеці з мікрараёнаў, замацаваных за пэўнай навучальнай установай.

Выключэнне робяць толькі тады, калі ў класах ёсць вольныя месцы.

Неабходнасць такіх ноу-хаў Карпенка тлумачыў жаданнем зрабіць так, каб адораныя вучні былі ва ўсіх школах, а не ў «абраных». Традыцыйна лічыцца, што гімназіі даюць лепшы ўзровень падрыхтоўкі, але ў Міністэрстве адукацыі вырашылі, што лепш максімальна ўраўняць школы. І праграму з «зорачкай» выкладаць толькі пасля дзявятага класа.

Усяго ў гарадах рэгіёна – 12 гімназій. Больш за ўсіх – у Маладзечне, пяць. Наступная па колькасці – Вілейка, тут дзве гімназіі. У Ашмянах, Смаргоні, Астраўцы, Валожыне, Ашмянах і Мядзеле – па адной.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Вучань з Войстама заняў трэцяе месца на выставе, прысвечанай бежанцам

СМАРГОНЬ

6 чэрвеня ў Музеі гісторыі Мінска адкрылі выставу рэспубліканскага конкурсу дзіцячых малюнкаў «Мы разам», прысвечаную Сусветнаму дню бежанцаў.

На адкрыццё запрасілі вучня з Войстамскай школы **Аляксандра Восіпава**. Яго праца заняла трэцяе месца ў краіне ў намінацыі «Камп'ютарны плакат». Для пераможцаў выступалі творчыя калектывы. Дзеці наведалі выставу ў мастацкай галерэі **Шчамялёва**, аглядавую экскурсію па Мінску.

**Аддзел інфармацыі.**

## Віляйчане выступалі ў Друскеніках

ВІЛЕЙКА

На пачатку чэрвеня па запрашэнні таварыства беларускай культуры «Спадчына» ў Друскеніках (Літва) выступіў народны гурт аўтарскай песні «Элегія» і мастак **Эдуард Мацюшонак**.

Дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч** была вядучай асноўнага канцэрта-свята «Спадчыне – 25» на цэнтральнай пляцоўцы ў Друскеніках.

На мерапрыемстве прысутнічаў пасол Беларусі ў Літве **Аляксандр Кароль**, госці, суайчыннікі, жыхары горада.

Старшыні таварыства «Спадчына» **Валянціне Іваноўскай** госці з Вілейкі ўручылі святочны каравай, выраблены на вілейскім хлебазаводзе. «Элегія» прадставіла літаратурна-музычную праграму «Мой краю запаветны…» на вершы і музыку **Уладзіміра Лапціка**, Таццяны Захарыч, **Уладзіміра Цануніна**, **Віктара Кажуры**.

Таксама вілейскі калектыў выступіў на дабрачынным канцэрце для дзяцей, што адпачываюць у санаторыі «Беларусь».

Арганізаваць паездку дапамог Вілейскі райвыканкам, хлебазавод і іншыя.

## У Смаргоні ўрачыста адкрылі бетоназмяшальную ўстаноўку

СМАРГОНЬ

На вытворчай базе будаўніча-мантажнага трэста №41, якая знаходзіцца ў прамысловай зоне мікрараёна Карані, адбылася ўрачыстасць з нагоды здачы ў эксплуатацыю нядаўна ўзведзенай тут аўтаматызаванай бетоназмяшальнай устаноўкі блочна-модульнага тыпу прадукцыйнасцю 45 кубічных метраў за гадзіну.

Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел прадстаўнікі працоўнага калектыву БМТ №41, фірмы, якая мантавала тэхналагічнае абсталяванне, раённага выканаўчага камітэта, райсавета дэпутатаў, раённага аб'яднання прафсаюзаў.

Адкрыў урачыстасць старшыня райвыканкама **Генадзь Харужык**, потым слова было дадзена кіраўніку трэста **Сяргею Радаману**. Дабрачынны Смаргонскай акругі, настаяцель храма Праабражэння Гасподня **Анатоль Разановіч** адслужыў малебен і акрапіў святой вадой новы прамысловы аб'ект.

Традыцыйна была перарэзаная чырвоная стужка, у блакітнае неба ўзняліся дзве гірлянды рознакаляровых шароў. Работнікі раённага Цэнтра культуры выступілі з канцэртнымі нумарамі.

Па камандзе "Пуск" запрацавала аўтаматызаваная бетоназмяшальная ўстаноўка, і неўзабаве ў МАЗ-міксер, у якім перавозяць бетон, была загружаная першая партыя прадукцыі. Аўтамабіль крануўся з месца і накіраваўся на будаўнічы аб'ект.

**Паводле сайта Смаргонскага райвыканкама.**

## Спаборнічалі вальшчыкі лесу

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

8 чэрвеня ў Валожыне правялі абласныя спаборніцтвы «Лесаруб-2018».

Удзельнічалі каманды лясгасаў вобласці з чатырох чалавек. Усяго сваё майстэрства прадставілі 71 вальшчык лесу і 20 лесагаспадарчых устаноў.

Спаборнічалі ў валцы дрэва, замене ланцуга ў піле, абрэзцы сукоў. Сярод пераможцаў ёсць прадстаўнікі нашага рэгіёна. У намінацыі «Валка дрэва» другім стаў **Канстанцін Іваноў** з Маладзечанскага лясгаса, трэцім – **Валеры Дуровіч** з Вілейскага. Ён жа ўзяў «бронзу» ў абрэзцы сукоў. У «Замене ланцуга» другое месца заняў **Юры Дуровіч** з Вілейкі. **Мікалай Ярошык** з Вілейскага лясгаса стаў трэцім у конкурсе «Дакладная распілоўка», **Валеры Пякарскі** з Маладзечна перамог у «Распілоўцы камбінаваным рэзаннем».

У асабовым першынстве сярод юніёраў перамаглі **Сяргей Гайчук** з Ільянскага лясніцтва. Сярод вальшчыкаў лесу лепшым стаў **Валеры Дуровіч**. Каманда Вілейскага лясгаса заняла другое месца ў вобласці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Правялі шашачны турнір сярод людзей з абмежаванымі магчымасцямі

АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ

6 чэрвеня спецыялісты і выхаванцы аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў «Цёплы дом» Смаргонскага тэрытарыяльнага цэнтра абслугоўвання насельніцтва прынялі ўдзел у міжраённых спаборніцтвах па шашках «Ваш ход».

Спаборніцтвы ладзілі ў фае Ашмянскага раённага цэнтра культуры. Зборныя каманды Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў прадэманстравалі свае ўменні і навыкі ў шашачны спорце і майстэрстве лагічнага мыслення.

Па выніках спаборніцтваў каманда Смаргонскага раёна заняла другое месца, Ашмянскага і Астравецкага – першае і трэцяе адпаведна. Па заканчэнні мерапрыемства ў сяброўскай атмасферы ўдзельнікі спаборніцтваў весела пагутарылі за салодкім сталом і патанцавалі пад вясёлую музыку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Навучальны год скончылі спартыўным святам

ВІЛЕЙКА

У канцы навучальнага года спартыўнае свята «Прывітанне, лета!» у вілейскай гімназіі №2 сабрала вучняў другіх-чацвертых класаў.

Кожная каманда падарожнічала па шасці станцыях: «Страявая», «Бегавая», «Футбольная», «Скачковая», «Чамучкі», «Снайперы».

**Аддзел інфармацыі.**

## «Смаргонь» гуляла з мінскім «Энергетыкам». Лік 1:4

СМАРГОНЬ

У суботу, 9 чэрвеня, ладзілі футбольныя матчы 10 тура чэмпіянату Беларусі сярод камандаў першай лігі. Матч паміж «Смаргонню» і «Энергетыкам» прайшоў на смаргонскім стадыёне «Юнацтва».

Першы гол на 17 хвіліне забіў нападаючы з «Энергетыка» **Усевалад Садоўскі**. На 33 хвіліне смаргонскі нападаючы **Фёдар Сапон** зраўняў лік. Першы тайм скончыўся з лікам 1:1.

У другім тайме «Энергетык» забіў «Смаргоні» яшчэ тры галы: на 55 і 59 хвілінах – паўабаронца **Айк Мусаганян**, на 82 – паўабаронца **Аляксей Наско**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Лепш – у паходзе, чым на бацькоўскім сходзе

## Настаўніца пачатковых класаў з Маладзечна восем год ладзіць паходы для вучняў і бацькоў

МАЛАДЗЕЧНА

**Заканчэнне пачатковай школы 4 «В» клас маладзечанскай гімназіі №7 адзначыў паходам.**



Фота забяспечанае Ліліяй МОНІД.

На пераправе страхуюць бацькі.

45 чалавек: вучні, бацькі, брацікі-сястрычкі і настаўніца **Лілія Монід** селі ў Маладзечне на цягнік і паехалі ў Чырвоны Беражок на Вілейшчыну – месца, дзе ўжо восем год педагог ладзіць для вучняў і іх сямей такія паходы.

– Вы, напэўна, настаўніца фізкультуры? – спытала я і была ўпэўненая ў станоўчым адказе.

**Аказалася, што Лілія Монід – настаўніца пачатковых класаў. Захапленне турызмам – ад тых часоў, калі ў маладзечанскай гімназіі №6 вучылася дачка Лілії Кацярына. Класны кіраўнік дзяўчынкі – турыстка са стажам – у адзін з паходаў запрасіла бацькоў. Лілія схадзіла і зразумела: вось чым яна будзе займацца са сваімі вучнямі ў пачатку летніх канікулаў.**

### Паход – гэта не пікнік з бутэрбродамі

У сёмай школе Лілія працуе восем год. За гэты час з пачатковай школы выпусціла два класы. Калі набрала першы, адразу аб'явіла дзецям, што ў канцы года клас разам з бацькамі пойдзе ў турыстычны паход. Менавіта ў паход, а не на пікнік: прыйшлі, з'елі бутэрброды і пайшлі.

Каб усё было па-сапраўднаму, звярнулася ў турклуб «Пілігрым» да **Сяргея Бялкова**. Той дапамог з пачыннем, расказаў, як зрабіць паласу перашкодаў, параіў некалькі цікавых спартыўных конкурсаў. У першы паход ішла з перасцярогай: як усё атрымаецца, ці спадабаецца дзецям і бацькам. Але перасцярогі былі марнымі: вечарам некаторыя дзеці плакалі, бо не хацелі ехаць дадому.

– Што мы толькі не рабілі за гэты час! – прыгадвае настаўніца. – І цвікі ў бервяно з аднаго ўдару забівалі, і бегалі, трымаючы мячык нагамі, з двума вядзерцамі ў руках. Гулялі ў футбол, валейбол, бадмінтон, настольныя гульні. Дзеці нават па карце шукалі скарб – закапаныя ў зямлю каробкі з ласункамі. А ў конкурсе перацягвання канатаў адзін раз мамы так паднапружыліся, што перамаглі татаў!

### «Дайце мне адпачыць у выхадныя!»

Не ўсе бацькі адразу падтрымліваюць ініцыятыўную настаўніцу. «Я працую па 16 гадзін, дайце мне хоць у выхадныя адпачыць» – такія фразы часам даводзіцца чуць ад мам і тат. Але калі нехта трапіў адзін раз, то застаецца ў турыстычнай кампаніі да канца пачатковай школы.

У спаборніцтвах удзельнічаюць каманда дзяцей і дарослых. Па словах настаўніцы, у першым класе, каб не пакрыўдзіць дзетак, бацькі паддаваліся ім.

А ў чацвертым класе вырашылі не паддавацца – і перамаглі. Гэта добра, лічыць настаўніца. У чацвертым класе дзеці павінны разумець, што не кожная гульня заканчваецца выйгрышам. Аднак суцяшальны прыз – кожнаму па чупа-чупсе – узрадаваў дзяцей не менш, чым перамога.

Першапачаткова не кожны з бацькоў пагаджаўся ўдзельнічаць у спаборніцтвах. Тады за кожнага, хто адмаўляўся, заданні выконвала настаўніца. Толькі сёлета гэтага ёй рабіць не давялося.

Тата, якому балела спіна, пад ціскам іншых бацькоў прайшоў усе конкурсы. Малодшыя брацікі і сястрычкі нараўне са школьнікамі ўдзельнічаюць у камандзе дзяцей. Вядома, за малечай – больш пільны кантроль, каб усё было бяспечна, асабліва на такіх складаных конкурсах, як «Навясная пераправа».

> – Нават мама з двухмесячным дзіцем прыязджала на пару гадзін да нас, каб паглядзець, як там яе старэйшае з татам, – дзеліцца Лілія Монід.

### «На абедзе ўсе вёдры з'ядаем да дна»

Звычайна таты дапамагаюць рыхтаваць паласу перашкодаў, ставяць палаткі. Сёлета адзін з татаў прывёз квадрацыкл і катаў на ім дзяцей.

Мамы гатуюць сняданне і абед. Вядро капусты – на першае, вядро бульбы з мясам – на другое, два вядры чаю з лімонам – на трэцяе. Увесь посуд пасля абеду застаецца пусты. Нават тыя, хто ў школьнай сталовай есць не вельмі, у паходзе ядуць з задавальненнем.

Вучні чацвертага класа – ужо не такія маленькія. Таму калі надвор'е дазваляе, ахвотных застаюцца начаваць. Сёлета такіх было 20 чалавек. Смажылі сасіскі на вогнішчы, слухалі спевы птушак.

### Пасля нефармальных адносінаў з бацькамі лягчэй у школе

Што варта рабіць педагогам, якія хочуць арганізаваць падобны паход? Лілія Монід не лічыць сябе прафесійным турыстам, таму парады яе зусім простыя:

– старацца, каб дзецям было цікава

– абавязкова клікаць у паход бацькоў

– а за прафесійнымі парадамі звярнуцца да спецыялістаў.

Настаўніца назірае, як сумесныя паходы яднаюць бацькоў. Да чацвертага класа паміж імі складваюцца простыя сяброўскія адносіны. Усе абменьваюцца тэлефонамі, дапамагаюць адзін аднаму забіраць са школы дзяцей.

І мне пасля нефармальных адносінаў у паходзе куды прасцей кантактаваць з бацькамі ў школе, на бацькоўскіх сходах.

– Пасля нашага апошняга паходу бацькі маіх чацвертакласнікаў прапанавалі схадзіць у паход і ў пятым. – Адказала, што сходзім абавязкова, толькі збярыцеся, – кажа настаўніца.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Квітанцыя, талон.
4. Пасля Казярога.
5. Выцягнутая пярэдняя частка галавы ў некаторых жывёл; рыла.
7. Пасудзіна для кветак, садавіны або проста дэкаратыўнага прызначэння.
8. Падвясны асвятляльны прыбор з некалькімі крыніцамі святла.
10. Спецыяльнае акно ў магазіне для паказу тавараў.
11. Скульптура з гэтай раслінай стаіць каля маладзечанскага амфітэатра.
14. Густое жоўтае рэчыва ў птушыным яйку.
15. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне.
16. Адрэзаны вялікі плоскі кавалак (хлеба, сала).
17. Усякая жывая істота, акрамя раслін.
20. Адчайны, немы крык як праяўленне жаху, як кліч на дапамогу.
22. Вялікая, звычайна высокая, чарка.
24. Расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або пад сенажаць.
25. Вяртаючыся з Рыма ў Парыж, Франсуа Рабле мусіў спыніцца ў адной ліёнскай гасцініцы. Грошай на далейшую дарогу ў яго не было. Раніцай ён расклаў тры пакецікі, на якіх было напісана: «… для караля», «… для кралевы» і «… для дафіна». Слуга іх убачыла і данесла ў паліцыю. Рабле арыштавалі і завезлі ў Парыж. Там ён гэтыя пакецікі адкрыў, таму што там быў цукар. І бясплатна прыехаў у сталіцу. Што было напісана на месцах пропуску?
26. Далонь і пальцы рукі, складзеныя так, каб імі можна было зачэрпнуць або ўтрымаць што-небудзь.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Вязка, пачак прадметаў, складзеных адзін на другі; стос.
3. У адным з часопісаў гэта стварэнне характарызавалі так: «Закіпае без знешніх прычын, добра ўзаемадзейнічае з металамі 11 групы табліцы Мендзялеева, з'яўляецца эфектыўным сродкам, які чысціць і мые.
6. Беларускі і рускі народны музычны інструмент у выглядзе дудкі з раструбам.
9. Рака ў Беларусі, левы прыток Нёмана.
12. Сталовы прыбор у выглядзе ручкі з доўгімі зубамі.
13. Трава, якую любяць есці гаспадары Белавежскай пушчы. Надземную частку з моцным пахам свежага сена і вяжучым смакам выкарыстоўваюць у алкагольнай вытворчасці.
17. Ручны млын, які складаецца з двух гладка абчэсаных круглых камянёў, пры дапамозе якіх зерне пераціраецца на муку.
18. Алесь Разанаў: «Азірнуўся – Нехта бяжыць па маіх слядах: Сухое лісце.»
19. Звязаны пучок галінак для парання ў лазні, падмятання падлогі.
21. Покрыўка кнігі, сшытка.
22. Прадукт харчавання з асоба прыгатаванага мяснога фаршу ў кішцэ або штучнай абалонцы.
23. Прозвішча пісьменніцы, што ў творы «Хам» пісала: Грошы на гэтым свеце, мая дарагая, гэта ўсё, усё і ўсё. Без грошай сам чалавек нічога неварты і інтарэс ягоны нічога не варты…»
24. Выратаваць яе змаглі дзякуючы медыкам і каталікам.
26. Крываносны сасуд.
27. У пачатку 18 стагоддзя пры двары султана дрэсіравалі чарапах. Іх вучылі не стаяць, а ўвесь час рухацца. Рабілі гэта для таго, каб выкарыстоўваць у час прыдворных вечароў на адкрытым паветры. Што гэтым чарапахам прымацоўвалі на панцыры?

## Адказы на крыжаванку з №23

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Фронт. 3. Футра. 5. Палітра. 6. Цокаль. 8. Чума. 11. Прыправа. 14. Вікторыя. 15. Фрэска. 18. Каляровы. 20. Цмок. 22. Капялюш. 25. Сабачка. 26. Акіян.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Цукерка. 3. Фэст. 4. Формула. 7. Ціха. 9. Прыток. 10. Дайвер. 12. Прырода. 13. Фраза. 16. Будызм. 17. Прымак. 18. Каларада. 19. Салаўкі. 21. Апілкі. 23. Прытча. 24. Флірт. 26. Айва. 27. Ціск.

## ● ГАРАСКОП 15-21 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** У вашай галаве пачне з'яўляцца цэлая куча ўсемагчымых ідэй і планаў, якія вы будзеце ў сілах рэалізаваць. Спатрэбяцца толькі намаганні і напорыстасць.



**ЦЯЛЕЦ.** Падзеі гэтых дзён не прынясуць нічога новага, усё будзе штодзённа і настолькі знаёма, што можа ўзнікнуць адчуванне дэжавю. Але гэты час найлепшым чынам падыходзіць для давядзення да розуму раней пачатых спраў.



**БЛІЗНЯТЫ.** У жыццё ідуць перамены, вам прыйдзецца скінуць маскі прытворства і паўстаць у сваім праўдзівым выглядзе. Калі вы не зробіце гэтага самі, то хтосьці зробіць гэта за вас, а вы можаце выглядаць не ў выгадным святле.



**РАК.** Праявіце ўпэўненасць у сабе і напорыстасць у справах. Усё, што ад вас патрабуецца, гэта не мяняць абранага шляху, вам трэба паступаць так, як вы планавалі, нічога не мяняць у сваіх дзеяннях. Усе вашы намаганні будуць узнагароджаныя атрыманнем доўгачаканага выніку, спаўненнем вашых жаданняў.



**ЛЕЎ.** У вашым жыцці наступае паласа, калі старое і звыклае пачынае паступова адміраць, каб вызваліць месца новаму. Складайце планы на будучыню і як мага хутчэй пазбаўляйцеся ад мінулага, каб прыцягнуць у сваё жыццё станоўчае новае.



**ДЗЕВА.** Праявіце ўважлівасць і асцярожнасць, Хто-небудзь з вашага акружэння захоча пажывіцца за ваш кошт, зрабіць гадасць за спіной або яшчэ што-небудзь у гэтым духу. Калі вам атрымаецца вывесці праціўніка на чыстую ваду, то пазбегнуць канфлікту не атрымаецца, таму лепш за ўсё быць гатовым загадзя.



**ШАЛІ.** Усе дні вам будуць з'яўляцца знакі, якія падкажуць, калі і як варта паступаць, якія рашэнні прымаць – вам толькі неабходна слухаць сваю інтуіцыю. Але так як вы будзеце ўпёртымі ў сваіх поглядах на свет, усімі сіламі адстойваць сваю пазіцыю і праяўляць незадаволенасць лёсам і навакольнымі, то падзеі могуць пачаць развівацца зусім не на вашу карысць.



**СКАРПІЁН.** Для вас гэтыя дні, напэўна, самыя лепшыя за прайшоўшы час. Вы будзеце адчуваць сябе ў цэнтры ўсеагульнай увагі, і вам будзе чым ганарыцца і што паказаць свету.



**СТРАЛЕЦ.** Вы адчуеце сябе абароненымі і задаволенымі, будзеце цешыцца дробязям і нават акунецеся трохі ў дзяцінства.



**КАЗЯРОГ.** Не ўвязвайцеся ў фінансавыя маніпуляцыі, яны не прынясуць вам нічога добрага. Вам захочацца палепшыць свой фінансавы стан за кошт не зусім сумленнага ўчынку, але лепш адмовіцца ад непрыстойных учынкаў адразу, чым шкадаваць пра гэта потым.



**ВАДАЛЕЙ.** Спрыяльны час па ўсіх пытаннях. Вы поўныя эмоцый і пачуццяў і адначасова вельмі актыўныя, што дазваляе вам лёгка заводзіць новыя знаёмствы ў любой кампаніі і эфектыўна дзейнічаць у любой сітуацыі.



**РЫБЫ.** Вы зможаце паказаць сябе з лепшага боку і тым самым заслужыць давер і павагу, што вам спатрэбіцца ў будучыні.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | 4 | | | | | 6 |
| | 7 | | 6 | 8 | 2 | | | |
| | | | | 5 | 3 | | 2 | |
| | 5 | | | 3 | | | 9 | |
| 8 | | | 5 | 4 | | 1 | | |
| 7 | | 3 | | 1 | | | | |
| | | | | | 1 | 7 | 3 | 4 |
| | | 4 | | 2 | | 6 | | |
| 9 | | | | | | | 1 | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

### 16 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +23 | | +15 / +18 | | +17 / +26 | | +20 / +28 | |
| | 739 | ↙ 5 | 740 | ↙ 4 | 739 | ↑ 4 | 739 | ↑ 4 |
| Вільня | +13 / +24 | | +16 / +22 | | +14 / +22 | | +14 / +21 | |
| | 746 | ↙ 3 | 747 | ↙ 3 | 746 | → 1 | 744 | ↑ 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 4.37
Захад 21.49
Даўжыня дня 17.12

Усход 7.39
Захад —
Квадра 1




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +3,7°С у 1958 годзе
Максімальная тэмпература +28,7°С у 1968 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 44,2 мм у 1963 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● У гарадах рэгіёна забаранілі наведванне лясоў. Пра тое, чым можа скончыцца кінутая ў лесе цыгарэта, і пра пажары, якія тушаць некалькі дзён, распавядуць у Маладзечанскім лягсасе.

## Прымай сонечныя ванны з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на 2-е паўгоддзе можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*



## У малацэ Маладзечанскага малаказавода знайшлі нітраты

МАЛАДЗЕЧНА

Спецыялісты «Рассельгаснагляду» выявілі перавышэнне ўтрымання нітратаў у пітным малацэ сямі беларускіх прадпрыемстваў і будуць праводзіць у сувязі з гэтым расследаванне. Пра гэта журналістам паведаміла ў сераду афіцыйны прадстаўнік ведамства **Юлія Мелано**.

У прыватнасці, нітраты выяўленыя ў пітным ультрапастэрызаваным малацэ вытворчасці ААТ «Мінскі малочны завод №1», СТАА «Данон Пружаны», ГП «Малочны гасцінец», Салігорскага філіяла ААТ «Слуцкі сыраробны камбінат». Акрамя таго, нітраты выявілі ў пітным стэрылізаваным малацэ вытворчасці Нарачанскага філіяла ААТ «Маладзечанскі малочны камбінат» і ў малацэ пастэрызаваным ПУП «Аршанскі малочны камбінат».

У адпаведнасці з існуючым тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза наяўнасць у малацэ і малочнай прадукцыі такіх нітратаў, як нітрат калію (E251) і нітрат натрыю (E250), не дапускаецца.

Да негатыўных уздзеянняў нітратаў на арганізм чалавека адносяцца слабасць, парушэнне самаадчування, парушэнне функцый нервовай сістэмы, сэрца, тканак нырак і печані, парушэнне мікрафлоры кішэчніка, зазначаецца ў паведамленні.

**Паводле «Нашай Нівы».**





### ● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Андрэй не любіў прабежкі, экстрым, адрэналін. Але суседскі даберман адкрыў у ім патэнцыял.

***

Пацукоў не любяць. Але вожык – пацук з іголкамі і кароткім хвастом, вавёрка – пушысты пацук з пушыстым хвастом. Выснова: галоўнае – дызайн і маркетынг.

***

На працы правялі праверку перад праверкай, каб даведацца, наколькі супрацоўнікі гатовыя да праверкі.

***

Надпіс на люку бензабака: «Таня, у нас дызель!!!».

### ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Прыгадайце самы яркі момант са школьнага жыцця



**Таццяна Шасцілоўская, медсястра:**

– Найбольш ярка прыгадваю сяброўства з аднакласнікамі. У нас у 11 школе быў дружны клас. Шмат з кім і сёння зносіны падтрымліваем.



**Дзяніс Гулевіч, малады тата:**

– Помніцца шмат што. Асабліва развітанне з любімымі настаўнікамі на выпускным.



**Анастасія Кіслая, выпускніца:**

– Прыемныя моманты ўзнагароджання за поспехі ў вучобе. Сёлета я ўдзельнічала ў алімпіядзе па грамадазнаўстве. Заняла трэцяе месца ў раёне.



**Максім Цыганок, дальнабойшчык:**

– З добрага – турыстычныя паходы, якія ладзіў класны кіраўнік, настаўнік геаграфіі. З дрэннага – тое, што некаторыя настаўнікі дазвалялі сябе абразіць вучня перад усім класам.



**Кацярына Кліменка, студэнтка:**

– Канешне, выпускны! А ўвогуле, шмат што вельмі ярка помніцца, бо закончыла школу нядаўна – у мінулым годзе.



**Іван Валасюк, праграміст:**

– Як увесь клас арганізавана сышоў з урока хіміі. Так выказалі нейкі пратэст. А супраць чаго пратэставалі, ужо і не памятаю дакладна.



**Святлана Кіслая, студэнтка:**

– Конкурс «Зорны капеж», які штогод ладзяць у гімназіі-каледжы мастацтваў, дзе я вучылася.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№24 (1207) 15.06.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 260. Падпісана ў друк у 9.00 14.06.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by .**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.